ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. TeL: (212) 380-2036

Год. XXV, № 222 New York, October — Кастрычнік 1975, Нью Ёрк Vol. XXV, № 222

## ІЗ ЗЫЧЛІВАЙ ПАТРАБАВАЛЬНАСЬЦЯЙ І ЯК НАЙБОЛЬШАЙ ДАПАМОГАЙ

Звыш двух месяцаў таму шумна прагучэла сьвяткаваньне 25-х угодкаў беларускай маладзежнай арганізацыі ў ЗША—Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, раней — Саюзу Беларускай Моладзі ў ЗША. У часе сьвяткаваньняў цяперашнімі й былымі кіраўнікамі маладзежнага руху, гэтак і прадстаўнікамі старэйшага грамадзтва было сказана шмат цёплых прамоваў. У іх, як і прынята на ўсякіх угодкавых урачыстасьцях, падчыркваліся адно дадатнія бакі дзейнасьці моладзі. Бакі адмоўныя, якія заўсёды былі таксама й ёсьць цяпер, ня згадваліся зусім.

Будучы запрошаным выступіць таксама з прамовай, я на самым пачатку зазначыў, што, кіруючыся шчырым жаданьнем як найбольшае карысьці для моладзі, буду гаварыць пра справы празаічныя, рэальныя, пры гэтым гаварыць ня толькі да самой моладзі, колькі й да старэйшых, ды што сказанае мною, каб лепш дайшло да старэйшых, апублікую асобным артыкулам, што й раблю гэтта.

Вось-жа з мамэнтам заснаваньня маладзежнай арганізацыі ў ЗША ў 1950 годзе, колькі добрых гадоў дзейнасьць моладзі й дзейнасьць старэйшага грамадзтва для моладзі былі вельмі інтэнсыўнымі й плённымі. Але пазьней дзейнасьць гэтая пачала паступова астываць з абодвых бакоў. Моладзь была пакінутая самой сабе. Не ўваходзячы ў прычыны гэтае зьявы, вынік быў той, што нацыянальная дзейнасьць сярод моладзі, паза некаторымі выняткамі, прыкладам, у Кліўленьдзе, была заглухла. Моладзь ставалася Амэрыканцамі беларускага паходжаньня, а ня беларускімі патрыётамі амэрыканскай дзяржаўнай прыналежнасьці.

Але колькі год таму сярод самой моладзі зазначыўся раптоўны паварот да беларускасьці, спачатку ў Нью Ёрку, а тады і ў іншых беларускіх асяродках, а навет і ў некаторых беларускіх асяродках вонках ЗША. Пачаўся ўзноў нацыянальны ўздым сярод самой моладзі й для моладзі, што й выявілася на юбілейных сьвяткаваньнях. Але гэта яшчэ адно пачаткі. Сяньняшні энтузіязм сярод моладзі зможа перарадзіцца ў сталую й пэрспэктыўную зьяву адно пры зычлівай і руплівай дапамозе моладзі з боку ўсяго старэйшага грамадзтва.

Тымчасам і сяньня сярод старэйшых ёсьць і гэткія, што ня хочаць дацэньваць ролі моладзі й нярэдка заяўляюць, што адным „Крыжачком" бацькаўшчыны адбудаваць нельга. Аднак у сяньняшняй рэчаіснасьці трэба пачынаць і ад „Крыжачка", ад беларускіх народных танцаў, ад прэзэнтацыі беларускіх народных касьцюмаў, ад маладзежных мастацкіх выступленьняў як сярод сваіх, гэтак і сярод чужынцаў. Тыя, што ня толькі не дацэньваюць гэтае рэпрэзэнтацыйнае дзейнасьці сяньняшняе нашае моладзі, а й грэбуюць гэтай дзейнасьцяй, да прыяцеляў моладзі не належаць.

Але, з другога боку, нельга й канчаць на „Крыжачку". Некаторыя з нас уважаюць, што адно канцэртных выступленьняў моладзі ўжо й хопіць, што больш нічога й ня трэба для нацыянальнага росту нашае моладзі. Тыя, што гэтак думаюць, карысьці для нашае моладзі ня прыносяць таксама, хоць, магчыма, не ўсьвядамляюць сабе гэтага.

Поўнасьцяй дацэньваючы важнасьць годнага рэпрэзэнтаваньня пры дапамозе народнага мастацтва імя Беларусі перад чужынцамі, неабходна дапамагаць нашай моладзі ўсьведамляць і ейныя вышэйшыя заданьні — узгадоўваць сябе на пераканаых беларускіх патрыётаў і ўлівацца ў беларускае нацыянальнае жыцьцё побач дый разам із старэйшым грамадзтвам.

З прыемнасьцяй можна адзначыць, што гэтак пачынаюць думаць і некаторыя адзінкі сярод сяньняшняй моладзі. Добрым прыкладам гэткіх адзінак можа служыць нававыбраны старшыня Галоўнае Управы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі Юрка Азарка. Будучы яшчэ заступнікам старшыні Галоўнай Управы АБАМ ды заступнікам рэдактара маладзежнага часапісу „Беларуская Моладзь", ён, апрача галоўнага прадмету сваіх унівэрсытэцкіх студыяў у галіне інжынерыі, выбраў, а нядаўна й скончыў гісторыю з адзінай мэтай — глыбей пазнаёміцца зь гісторыяй Беларусі. Памятаем ягоны артыкул у ангельскай мове ў „Беларускай Моладзі" пад загалоўкам — „Чаму трэба студыяваць беларускую мінуўшчыну?"

Але колькі ў нас сяньня гэткіх Азаркаў? Сяньня трэба мець на ўвазе наступныя аб'ектыўныя факты. Старэйшае беларускае пакаленьне, што гартавала свае нацыянальныя сілы яшчэ на бацькаўшчыне, апынуўшыся ў выніку апошняе вайны на Захадзе, зрабіла вельмі шмат дзеля прадаўжэньня нашай нацыянальнай справы ў замежжы. Але пакаленьне гэтае, зь нязначнымі выняткамі, ужо адыйшло, а тыя, што засталіся, хутка адыйдуць таксама. Трохі малодшыя за іх, але ўзгадаваныя пад іхным уплывам і ў тымжа нацыянальным духу, таксама ня вечныя. Некаторая частка першых і другіх, менш устойлівая ідэйна, сваю нацыянальную ідэю замяніла далярова-спажывецкай ідэяй і сяньня страчаная для нацыянальнае справы.

У ваблічччы гэтага няўмольнага факту войстра паўстае пытаньне: хто-ж заменіць старэйшых, калі яны цалком адыйдуць? Зразумела, іх можа й павінна замяніць нашая моладзь. І ад таго, як узгадоўваецца сяньня нашая моладзь, залежыць і будучыня нашае справы. Вось чаму пытаньне, хто прыйдзе на нашае месца, незаўсёды й намі і моладзяй належна ўсьведамленае, на маю думку, **ня толькі адно з найважнейшых, але й найважнейшае з пытаньняў вельмі блізкае ўжо будучыні.** Вось чаму сяньня трэба як мага памагаць нашай моладзі, каб яна змагла стацца паўнацэнным пераемнікам старэйшых. Было-б нацыянальным праступкам і перад моладзяй, і перад будучыняй ігнараваць і ставіцца няпрыхільна да сяньняшняга энтузіястычнага руху сярод самой моладзі й для моладзі.

З другога боку, ня шмат было-б карысьці, калі-б мы цьвердзілі, што ўсё тое, шо робіць сяньня моладзь, — а робіць яна шмат, — гэтага ўжо даволі. Дык ня злосная й няпрыхільная крытыка й таксама не камплімэнтарнае й завышанае ўслаўленьне дасягненьняў нашае моладзі, якіх яшчэ адно пачаткі, павінна намі кіраваць у дачыненьні да моладзі. Наш падыход да моладзі, паўтараю, павінен быць патрабавальна зычлівы, як добрага й адданага сваім вучням настаўніка, што ставіць ім часамі й дрэнныя адзнакі ды пакідае іх на другі год, але ня з мэтаю іх пакараньня, а із запраўднай да іх любасьці, каб зрабіць зь іх паўнацэнных людзей.

Жыцьцё пацьвердзіла, што асабліва важнай базай для нацыянальнага ўзгадаваньня моладзі служаць нашыя сыботнія або нядзельныя школы беларусаведы. З гэтых школаў у васноўным рэкрутуецца моладзь, што пазьней становіць галоўны ідэйны стрыжэнь маладзежных арганізацыяў, а ў тых беларускіх асяродках, дзе школаў гэткіх няма, там звычайна няма й беларускіх маладзежных арганізацыяў, а калі яны й бываюць, дык далёкія ад сваіх заданьняў. Канкрэтных прыкладаў на пацьверджаньне гэтага падаваць няма патрэбы: яны былі й ёсьць сяньня.

Гэта ўсё гаворыць за тым, што нашае грамадзтва павінна ўсякімі спосабамі падтрымліваць гэтыя школы й памагаць сьціроўваць іх у вадпаведнае ідэйнае нацыянальнае рэчышча.

Для сваёй дзейнасьці моладзь патрабуе матар'яльнай, дакладней, фінансавай дапамогі, і гэтую дапамогу павінны даць старэйшыя. Праўда, некаторыя нашыя асяродкі ня толькі ў ЗША, але і ў іншых краёх, прыкладам, у Аўстраліі й Ангельшчыне, належна падтрымліваюць маладзежны часапіс „Беларуская Моладзь", правільна ўважаючы яго за часапіс усяе беларускае моладзі, а ня толькі моладзі ў ЗША. Аднак дзеля нармальнага разьвіцьця гэтага часапісу й асабліва ў сувязі з ростам дарагоўлі дапамога гэтая мусіла-б быць павялічаная.

Беларуская моладзь ЗША рыхтуе цяпер рэпрэзэнтацыйны свой ілюстраваны альманах з нагоды 25-ых угодкаў маладзежнае арганізацыі. Каб здабыць патрэбныя грошы на ягонае выданьне, рэдакцыя гэтага альманаху зьвярнулася із заклікам да грамадзтва, каб паасобныя прыяцелі моладзі закупілі цэлую бачыну за $ 100.00 або поўбачыны за $ 50.00, на якой маглі-б зьмясьціць у ангельскай або беларускай мове свае пажаданьні ці ўвагі або выказалі іх якім-небудзь адпаведным тэкстам іншага аўтарства ці нейкім адпаведным вершам беларускага паэты. Здавалася-б, надзвычайная нагода для кажнага, каб гэткім спосабам памагчы моладзі матарыяльна й падтрымаць яе на духу. Тымчасам, як даведваемся, вынікі гэтага мерапрыёмства пакульшто шмат ніжэйшыя за спадзяваны.

Канчаючы гэтыя свае заўвагі й прапановы, хочацца сказаць найважнейшае: **якой будзе нашая моладзь, ці зможа яна стацца годным пераемнікам дзейнасьці старэйшага пакаленьня, залежыць перш-наперш ад старэйшага пакаленьня.** Будзьма добрай думкі, што старэйшае пакаленьне свой нацыянальны абавязак перад моладзяй патрапіць выканаць.

Ст. Станкевіч

## КАЛЯДНЫЯ Й НАВАГОДНІЯ ВІНШАВАНЬНІ Й ПАЖАДАНЬНІ ПРАЗ НАШУЮ ГАЗЭТУ

**Як і мінулымі гадамі, сьнежанскі нумар „Беларуса" ахвотна служыць нашым Суродзічам дзеля калядных і навагодніх віншаваньняў і пажаданьняў. Каб мець зьмешчанае сваё імя й прозьвішча ў супольнай двушпальтовай у прыгожых рамках калёнцы, у новым сёлета мастацкім афармленьні, трэба не пазьней, як да 15-га сьнежня прыслаць у Рэдакцыю 10 даляраў. А хто жадаў-бы зьмясьціць сваё віншаваньне асобна ў рамках на 2-х шпальтах нашае газэты, неабходна да 15-га сьнежня прыслаць 25 дал.**

**Асабліва выгадна карыстацца з гэтае нагоды нашым суродзічам у Аўстраліі, якія цяпер атрымліваюць „Беларуса" раней, чымся падпішчыкі ў ЗША, бо ўва ўсе аўстралійскія беларускія асяродкі высылаецца газэта лётніцкай поштай. Гэтае самае датычыць і тых беларускіх асяродкаў у Ангельшчыне, у якія таксама высылаецца газэта лётніцкай поштай.**

**Дый нашым чытачом у ЗША, што атрымліваюць газэту звычайнай поштай, будзе яна разасланая яшчэ перад сьвяточным загружаньнем пошты, з паштовымі маркамі, адмыслова штэмпляванымі, што гарантуе ейнае хуткае даручэньне. Таму яна трапіць у рукі чытачоў перад каталіцкімі каляднымі сьвятамі й Новым Годам, ня кажучы ўжо пра праваслаўныя сьвяты.**

## ЗАСНАВАНЬНЕ АГУЛЬНА-АЎСТРАЛІЙСКАЕ РАДЫ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

У нядзелю 20 верасьня сёлета ў Лятувіскім Доме ў Мэльбурне, Аўстралія, адбыўся арганізацыйны зьезд дэлегатаў з паадзіночных штатаў з мэтай заснаваньня Агульна-Аўстралійскае Рады Паняволеных Народаў. Ініцыятыва заснаваньня гэтае Рады з Брысбэйну, сталіцы штату Квінсьлянд. Амаль на пачатку бягучага году і толькі пасьля даўгіх падрыхтавальных працаў было пастаноўлена склікаць арганізацыйны зьезд у Мэльбурне, дзе Рада Паняволеных Народаў штату Вікторыя бадайшто найбольш праяўляе актыўнасьці.

Пасьля адкрыцьця зьезду й прывітаньня дэлегатаў сп. С. Ружыцкім, які зьяўляецца старшынём Рады ў Вікторыі, быў выбраны прэзыдыюм зьезду, далей адбылася вэрыфікацыя мандатаў дэлегатаў ад паасобных этнічных групаў ды прыняцьцё статуту Агульна-Аўстралійскай Рады Паняволеных Народаў. Пасьля даволі даўгой дыскусіі статут быў прыняты зь невялікімі папраўкамі. Найвышэйшым органам Агульна-Аўстралійскай Рады Паняволеных Народаў ёсьць Фэдэральная Канфэрэнцыя Дэлегатаў па аднэй асобе ад кажнай этнічнай групы. Канфэрэнцыя гэтая выбірае Агульна-Аўстралійскую Экзэкутыву (старшыня, заступнік старшыні, двух сакратароў і скарбнік) з трохгадовай кадэнцыяй. Сябры Экзэкутывы па магчымасьці павінны пражываць у вадным і тым-жа штаце. Кажны штат Аўстраліі павінен мець уласную Раду Паняволеных Народаў, уласны статут і карыстацца ў працы вельмі шырокай аўтаноміяй.

Пасьля прыняцьця статуту адбыліся выбары ў Агульна-Аўстралійскую Экзэкутыву. Старшнём быў выбраны аклямацыямі сп. С. Ружыцкі, заступнікам старшыні сп. Бэрзіс, сакратарамі сп. сп. Яськевіч і Лютон, скарбнікам д-р Элек. Беларуская дэлегацыя прыймала актыўны ўдзел у зьезьдзе, а адзін зь беларускіх дэлегатаў увайшоў у Рэвізійную Камісію.

Працы зьезду трывалі амаль цэлы дзень. Вечарам адбылося таварыскае спатканьне дэлегатаў і запрошаных аўстралійскіх гасьцей, сярод якіх было некалькі паслоў і сэнатараў аўстралійскага парляманту ды кіраўнікі аўстралійскіх антыкамуністычных арганізацыяў. Быў прысутным на зьезьдзе й на таварыскім спатканьні дэлегат польскага экзыльнага ўраду сп. К. Навіцкі.

А. К-а

## СПАТКАНЬНЕ ДЭЛЕГАТАЎ ЭТНІЧНЫХ ГРУПАЎ З ПРЭМ'ЕРАМ ПОЛЬСКАГА ЭКЗЫЛЬНАГА ЎРАДУ

30 верасьня сёлета адбылося ў Польскім Доме ў Мэльбурне, Аўстралія, спатканьне дэлегатаў этнічных групаў Рады Паняволеных Народаў штату Вікторыя з прэм'ер-міністрам польскага экзыльнага ўраду сп. Альфрэдам Урбанскім. У запросінах паведамлялася, што кажны дэлегат можа задаваць сп. Урбанскаму пытаньні, на якія той будзе старацца па магчымасьці адказаць.

Прэм'ер-міністра ў цёплых словах прывітаў віцэ-старшыня Агульна-Аўстралійскай Рады Паняволеных Народаў сп. Бэрзіс, далей коратка віталі прадстаўнікі паасобных этнічных групаў. Падчас гутаркі з паадзіночнымі дэлегацыямі беларускі прадстаўнік задаў сп. Урбанскаму пытаньне, чаму польскі экзыльны ўрад у афіцыйных асьветчаньнях мае прэтэнсіі да часткі беларускіх земляў, якія пасьля Рыскага трактату з 1921 году ўваходзілі ў склад Польшчы? Сп. Урбанскі адказаў, што ўсе мы, прадстаўнікі паняволеных камунізмам народаў, павінны сьціраваць усе нашыя высілкі на здабыцьцё незалежнасьці, а ўсякія тэрытарыяльныя прэтэнсіі павінны быць разьвязаныя мірным спосабам паасобнымі вызваленымі ад камунізму народамі. Гэта між іншых і датычыцца да польска-беларускіх дачыненьняў. Далей ён абяцаў, што ў будучыні польскі экзыльны ўрад будзе трымацца вось гэтых прынцыпаў і асьветчаньняў такіх, пра якія ўспомніў беларускі дэлегат, больш з боку польскага ня будзе.

Ужо на пачатку размовы выявілася, што беларускі дэлегат радзіўся ў Варшаве ды працаваў пераважна ў этнаграфічнай Польшчы, а прэм'ер-міністар Урбанскі паходзіць спад Маладэчына і вельмі добра ведае беларускую мову. Таму й гутарка вялася ў беларускай мове. Сп. Урбанскі добра ведае і вельмі любіць Беларусь. Калі-б абодвы краі — і Беларусь і Польшча былі вольнымі, дык ён хацеў-бы жыць толькі на Беларусі. Пасьля таварыскага спатканьня дэлегат польскай этнічнай групы дзякаваў беларускай дэлегацыі за актуальнае пытаньне, пастаўленае сп. Урбанскаму.

Згодна прынятых у Радзе Паняволеных Народаў прынцыпаў, мы тут у Аўстраліі ніколі не закранаем справы эвэнтуальных граніцаў, пакідаючы гэтае пытаньне будучым урадам нашых вольных народаў.

А. К-а

## АНТЫКАМУНІСТЫЧНАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў МЭЛЬБУРНЕ

У нядзелю 27 верасьня сёлета адбылася ў вялікай залі Дальляса Брукса ў Мэльбурне, Аўстралія, Антыкамуністычная дэманстрацыя з удзелам каля 1.500 чалавек. Дэманстрацыя была ладжаная Камітэтам арганізацыі „Народ супраць Камунізму". Характэрна, што вялізарнай бальшынёй удзельнікаў былі Аўстралійцы. Галоўнымі прамоўцамі былі: сп-ня Джэніфэр Мэккалюм, сэнатар Гэннан, міністар штату Вікторыя сп. Вількокс, былы фэдэральны міністар Джэсс ды ведамы на аўстралійскім груньце Джордж Пэтропілё, Расеяц, б. даўгагадовы вязень савецкіх канцэнтрацыйных лягераў. У даўгім, але цікавым дакладзе ён даў аналіз савецкай камуністычнай сыстэмы, ды падчыркнуў змаганьне зь ёй у Савецкім Саюзе, якое спрычыняе шмат клопату крамлёўскім уладаром. Згодна з апініяй дакладчыка, многія тысячы савецкіх грамадзян змагаюцца ў Савецкім Саюзе з усёмагутнай тыраніяй.

Вялікая заля была ўпрыгожаная шматлікімі плякатамі й патрэтамі А. Салжаніцына. Удзел у дэманстрацыі прыняла й беларуская дэлегацыя.

Рада Паняволеных Народаў штату Вікторыя даволі позна атрымала паведамленьне пра скліканьне дэманстрацыі, таму і ўдзел у ёй эміграгантаў быў даволі малы. Мы аднак цешымся, што Аўстралійцы ўсё больш і больш разумеюць небясьпеку камунізму і пачынаюць паважна думаць пра змаганьне з гэтай міжнароднай заразай. Аўстралія — гэта краіна багатая мінэральнымі рэсурсамі й высокім жыцьцёвым узроўнем жыхарства. Цяпер, Аўстралія пасьля трохгадовай улады лейбарыстаўскай партыі, якая йшла насустрач палітыцы прафэсыянальных саюзаў, у аграмаднай бальшыні апанаваных камуністымі, стаіць на мяжы эканамічнай катастрофы. Страшэнная інфляцыя, адна з найбольшых у Заходнім сьвеце, лік беспрацоўных хутка дойдзе да 500.000 чалавек—гэта ня што іншае, як рэзультат лейбарыстаўскай сацыялізацыі краіны, рэзультат змаганьня з дасюлешняй капіталістычнай сыстэмай.

У Аўстраліі, паводля савецкіх дадзеных (гл. Першы том Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі — А. К.), пражывае прыблізна 10.000 Беларусаў. Далейшымі падзеямі ў Аўстраліі павінна цікавіцца беларуская эміграцыя іншых краёў Вольнага сьвету.

А. К-а

**Мэмарыял лёнданскае Эўрапейкае Групы Сувязі** (European Liaison Group), прысьвечаны пытаньню савецкае агрэсіі ў Эўропе, разасланы ў розныя інстанцыі заходняэўрапейскіх дзяржаваў разам з картаю расейскіх захопаў і храналягічнай табліцай абвешчаньня незалежнасьці нерасейскіх народаў, а таксама дадзенымі пра дэпартацыю цэлых нацыянальнасьцяў гадамі Другое сусьветнае вайны. У складзе Эўрапейскае Групы Сувязі прадстаўленая й Беларусь.

# ПРЫГАЖОСЬЦЬ АНТАРЫЯ




**Група ўдзельнікаў экскурсіі прадстаўнікоў этнічнай прэсы. Прадстаўнік газэты „Беларус" Антон Маркевіч трэйці зьлева**

Сёлетняя, з чаргі 12-я тура Антарыйскай Этнічнай Прэсы, што адбывалася на працягу 16-21 чырвеня, была фінансаваная Міністэрствам Індустрыі й Турыстыкі. У першы дзень паездкі зрана сам Міністар Даст. Клод Бэнэт праводзіў у дарогу ўдзельнікаў туры й абяцаў праз чатыры дні спаткацца з усімі ў Атаве . . .

. . . Раскошны аўтобус набірае курс на поўнач да Тобэрморы, мінаючы гарадкі Орэнджвіл, Шэлбурн, Оўэн Саўнд і Вайяртон (тут палуднавалі). З Тобэрморы новым мадэрным параплавам М. С. Чы-Чымон разам з басам перапраўліліся ў Саўт Бэймаўт на абтоку Манітулін, стуль басам заехалі ў Манітуўонінг, дзе й заначавалі. Пазьней увечары адбылося спатканьне з Турыстычнай Асацыяцыяй абтоку Манітулін. Было яно цікавае й прыемнае.

Наступнага дня дарога вядзе праз Літл Каррэнт у Садбуры. Па прыбыцьці трапляем на экскурсію мадэрнага гыпадрому Садбуры Доўнс, маючы добрую нагоду азнаёміцца з тэхнікай конскіх перагонак. На палудзень нас запрасіла Садбурская Этнічная Асацыяцыя ў свой Цэнтр Шматкультур'я, куды прыбыло шмат прадстаўнікоў ад усіх этнічных групаў. Але дарэмна я прыглядаўся, каб спаткаць каго зь мясцовых Беларусаў, хоць мне й было сказана, што той і той меўся прыбыць . . . Горад гэты вельмі-ж разросься й мае вялікія праекты да выкананьня на блізкую будучыню. Да таго-ж ён вельмі славіцца вялікай дабычай нікелю й нат медзі . . .

Затым узноў у дарозе ў кірунку Норт Бэй. Зноў экскурсія. Гэтым разам аглядаем прадукаваньне лодак кану з мэталю фірмай Спортспол Кану Ко. Начавалася ў Сандрыдж у гатэлі Кэсвэл Рэсорт, гаспадары якога намі вельмі-ж ужо добра заапякаваліся. Не абыйшлося й бяз спэцыяльнага пачастунку ў наш гонар.

Трэйці дзень падарожжа занёс нас у надзвычайна прыгожую мясьціну Гіддэн Вэллы, непадалёк Гантсвілу (Маскока), у Дыргёрст Ладж, дзе вельмі добра й рацыянальна праведзены быў час.



**Міністар індустрыі й турызму Даст. К. Бэнэт з прадстаўніком „Беларуса" А. Маркевічам і прадстаўніцай газэты „Беларускі Голас" сп-ньй М. Зіняк**

У чацьвер 19 чырвеня едзем далей на ўсход у Кашубы й, мінуўшы Бэрыс Бэй, спыняемся на даўжэй пры кашубскім касьцеле ў Вільно, дзе нас чакаюць добры абед зь мілым пачастункам, і гэта ўсё з аказыі сотых угодкаў першапасяленьня Кашубамі гэтае часткі правінцыі, у прыгожа ўдэкараванай залі пад сьвятыняй. Па афіцыйным прывітаньні ўпісваемся ў ганаровую кнігу гасьцей, а пры гэтым кажны госьць асобна быў сфатаграфаваны. Вельмі мілае ўражаньне зрабіў на нас усіх ксёндз-настаяцель згаданай сьвятыні.



**Даст. К. Бэнэт (у цёмным касьцюме) прамаўляе да ўдзельнікаў экскурсіі. Прадстаўнік „Беларуса" А. Маркевіч 4-ы зьлева ў заднім радзе**

Надвечар мы ўжо ў сталіцы Канады — у Атаве. Адразу-ж пасьля закватараваньня ў гатэлі Скайлайн, сьпяшаемся на канфэрэнцыю ў Парлямант зь Міністрам для Шматкультуралізму, ён-жа й Міністар Працы, Даст. Джанам Манро. Спатканьне было цікавае й пазытыўнае, на якім сп. сп. Ул. Маўко і д-р Я. Рудныцькый умела сфармулявалі праблемы й патрэбы этнічных газэтаў, а Міністар, у сваю чаргу, прыабяцаў прыйсьці з дапамогаю. Пазьней увечары на запросіны трапляем на прыняцьцё ў суседні гатэль, ладжанае ў гонар удзельнікаў канфэрэнцыі Канадыйскай Дарадчай Рады для Шматкультуралізму. І тут даст. Джан Манро не прамінуў нагоды бліжэй спаткацца з дэлегатамі й прэсай дый з тым ці іншым увязацца ў гутарку на розныя тэмы, а то й супольна сфатаграфавацца. Наступны дзень прайшоў на агледзінах сталіцы. Абплылі матаровым суднам славуты канал Рыдо, а ў пазьнейшы час у спэцыяльным аўтабусе аглядалі цікавейшыя аб'екты гораду.

Вечар быў яшчэ цікавейшы, бо Даст. Клод Бэнэт датрымаў абяцанае слова спаткацца тут з намі, да таго яшчэ й абед з прыняцьцём у наш гонар. Дык як ня радавацца? Надзвычайны вечар! Цёплыя прамовы, абмен думак, добры настрой. На прыняцьці Даст. Міністар прыняў ахвотна запрапанаванае яму ганаровае сяброўства ў Асацыяцыі Этнічнай Прэсы пад гучныя воплескі прысутных. Тут-жа належна былі ацэненыя й заслугі Дырэктара А. Вэна, штогодняга кіраўніка й плянавіка падарожжаў прэсы. Падарожжа закончылася ў сыботу 21 чырвеня і, яшчэ пасьля побыту ў Бронквіл, усе пасьпяхова прыбылі назад у Таронта.

На заканчэньне трэба з прызнаньнем сьцьвердзіць, што Антарыё сапраўды ўражае кажнага турыстага сваёю прыгажосьцяй, куды-б ён не зазірнуў. Ёсьць усюды й добрае закватыраваньне з добрай абслугай. Даведаліся мы, што й Манітоба пачала арганізаваць падобныя паездкі.

**Антось Маркевіч**

# ГАДАВЫ СХОД АБАМ У НЬЮ ЁРКУ

У нядзелю 21-га верасьня сёлета адбыўся Гадавы Перавыбарны Сход Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Нью Ёрку ў парахвіяльнай залі Беларускай Незалежнай Праваслаўнай Царквы ў Рычмонд Гіл, Нью Ёрк.

Пратакол з папярэдняга гадавога сходу прачытала сакратарка Вера Запруднік. Старшыня Аддзелу ў мінулым годзе Ніна Запруднік здала падрабязную справаздачу зь дзейнасьці Аддзелу. Дзейнасьць была разнастайная: шматлікія выступленьні дзявоцкай танцавальнай групы „Мяцеліца" на беларускіх сьвяткаваньнях і імпрэзах, ладжаных Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем, Беларуска-Амэрыканскім Аб'еднаньнем і іншымі арганізацыямі, выступленьні на міжнародных фэстывалях, удзел у спартовых сустрэчах, у зьезьдзе моладзі і ў гадавым канцэрце моладзі (канцэрт талентаў). Дзеля папаўненьня фінансавых рэсурсаў Аддзел ладзіў лятарэі й танцавальныя вечарыны. Моладзь зьбіралася штотыдзень у пятніцы на практыкаваньні танцаў і сяброўскія сустрэчы. Была справаздача таксама сакратара й скарбніка Аддзелу. Прысутны на Сходзе старшыня Галоўнае Ўправы АБАМ Юрка Азарка паінфармаваў у справе падрыхтоўкі да ўдзелу ў адзначэньні 200-сотых угодкаў незалежнасьці Амэрыкі й падаў некаторыя прапановы.

У новую ўправу Аддзелу АБАМ былі выбраныя: Ніна Запруднік — старшыня, Даніла Мерляк — заступнік старшыні, Вера Запруднік — сакратар, Раіса Станкевіч — скарбнік і Вітаўт Тумаш — спартовы рэфэрэнт.

Быў таксама абмеркаваны плян працы ў найбліжэйшай будучыні: удзел моладзі ў Дажынках, ладжаных Аддзелам БАЗА, Нью Ёрк, з народнымі танцамі й лятарэяй на карысьць маладзежнай арганізацыі, а таксама арганізацыя васеньняй вечарыны, якая была заплянаваная на дзень 18-га кастрычніка. Галоўнай справай будзе падрыхтоўка да выступленьняў у сувязі з 200-мі ўгодкамі ЗША.

**Раіса Станкевіч**

## ПЫТАНЬНЕ МАСАВАСЬЦІ БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА

**(Заканчэньне з 2-й бачыны)**

рэньня сваіх нацыянальных культурных каштоўнасьцяў ды іхнае абароны перад русыфікацыяй. Вялікая гістарычная роля сяньняшняй нацыянальнай інтэлігенцыі ў БССР у тым, што ад ейнага патрыятызму й супрацьдзеяньня культурнай і моўнай русыфікацыі залежыць магчымасьць ператрываньня народу ў сяньняшніх панурых гадох камуністычнага ліхалецьця й ягонае перамогі, як апрычонае беларускае нацыі.

**Раман Шарупіч**

**ПАШЫРАЙЦЕ ГАЗЭТУ "БЕЛАРУС"! ХАЙ КАЖНЫ ЕЙНЫ ПРЫХІЛЬНІК ПРЫДБАЕ ПРЫНАМСЯ АДНАГО НОВАГА ПАДПІШЧЫКА У НОВЫМ 1976 ГОДЗЕ!**

# КАСТУСЬ ЦЬВІРКА ШЛЯХАМ СЫРАКОМЛІ

У 1970 годзе асьпірант Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру Акадэміі Навук БССР, ведамы паэта Кастусь Цьвірка ўведзены ў склад этнаграфічнай экспэдыцыі, па „індывідуальным маршруце" накіраваўся „тымі сьцежкамі, якімі болей чым сто гадоў назад хадзіў Уладыслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч)". У сваёй кнізе „Дарога ў сто год" (выд. „Мастацкая літаратура", Менск, 1974 г.), Цьвірка выясьняе прычыну свайго „індывідуальнага маршруту" наступна: „Ён (Сыракомля) наш зямляк, апяваў у сваёй паэзіі Беларусь, яе разлогі і пушчы, расказаў пра долю беларускага мужыка . . . У жыцьці і творчасьці гэтага выдатнага паэты XIX стагодзьдзя шмат няяснага, нявысьветленага".

Маршрут Цьвіркаў пачаўся ў месцы нараджэньня паэты, вёсцы Смольгаў Бабруйскага павету, а скончыўся ў Барэйкаўшчыне пад Ашмяной (цяперашняй Лятувіскай ССР). Нам, Беларусам на выгнаньні, Сыракомля слаба ведамы перадусім таму, што ён, за малымі выняткамі, пісаў свае творы папольску, хоць і заахвочваў іншых, прыкладам В. Дуніна-Марцінкевіча, пісаць пабеларуску. Сам-жа, будучы то ўраднікам у Радзівіла ў Нясьвіжы, то бедным арандатарам панскае зямлі, зарабляў на ўтрыманьне свае сям'і й сваякоў творчым і публіцыстычным пісаньнем, ня мог пазволіць сабе на „люксус" ужываньня беларускае мовы, тады „мужыцкай і хамскай", загнанай чужымі панамі пад дзіравыя сялянскія стрэхі. Але напісаў гэты гаротнік вельмі шмат і бальшыню на беларускія тэмы, пераважна сацыяльныя. Вялікай заслугай яго было тое, што апісваў жыцьцё прыгоннага Беларуса, яго гарады, гістарычныя памяткі, зганьбаваныя сьвятыні, цягу прыгоньніка да волі, так сказаць „вывадзіў Беларусаў у людзі", няспынна спрачаўся з Палякамі за правы сваіх паняволеных суродзічаў. У 1872 годзе, у дзясятыя ўгодкі сьмерці паэты, выдалі ў Варшаве дзесяць тамоў ягонай паэзіі. Значыцца Сыракомля пакінуў аграмадную спадчыну. Ведама, што творы Сыракомлі мелі вялікі ўплыў і на Купалу, і на іншых нашых пазьнейшых паэтаў. Нам, Беларусам, варта было-б даўно пазнаць Сыракомлю. Але гэта ўжо асобная тэма.

Вялікі Цьвіркаў нарыс я прачытаў зь цікавасьцю. Ён ставіць перад намі ня толькі няслушна закінутага намі паэту, што з прычыны свае беднасьці ня мог пісаць пабеларуску, хоць мову сваю надзвычайна добра ведаў, але й пра тую сыстэму, дзе „расьцьвіла поўная свабода", значыцца й пра ведамае „сонца", якое быццам грэе й нашага сучаснага падарожніка па Сыракомлевых сьцежках. Цьвірка вось валочыцца па паэтавых сьлядох, розныя партыйныя сакратары, „шчасьлівыя" калгасныя прыгоньнікі ды іншыя савецкія бюракраты памагаюць часта Сыракомлеву сьцежку знаходзіць. Цьвірка, ведама-ж, ганіць той калішні прыгон, пад якім жыў зьнямоканы Сыракомля, ды хваліць новы, бальшавіцкі, пад якім узбуйнеў сам Цьвірка. Разам зь сялянамі ён аплаквае ахвяры зьверства нацыстых „вялікай айчыннай". Адылі навет праз штучна-надзьмутае выхваляньне цяперашняга ладу прабіваецца іншы Цьвірка, той, катораму баліць усё старажытнае, памятнае, цэннае, зьнішчанае цяперашнімі варварамі й іхнымі цівунамі. Гэтак пад Цьвіркавым пяром увасрасае дзікая маральная галеча ладу спад „роднай партыі", якой — як ні выхваляйся казённай рыторыкай пра „нябывалы росквіт" і г.д. — ніяк не схаваеш.

Павандруем, разам зь Цьвіркам, у Залуча і Жукаў Барок над Нёманам, дзе шмат пражыў і тварыў выдатны сын беларускае зямлі.

„Сюды, у ціхі паэтаў куток, — апавядае Цьвірка, — мяне прыкаціла „Волга", якую мне далі ў рэдакцыі стаўбцоўскай раённай газэты „Прамень". Са мной былі фатограф газэты Міша Пражэнік і сакратар партарганізацыі мясцовага калгасу Мікола Кавальчук, хлапец гадоў дваццаці двух, якога мы „прыхапілі" ў Аталезі — цэнтры калгасу. Абодва хлопцы вельмі зацікавіліся сваім земляком Уладыславам Сыракомлем і з ахвотай езьдзілі са мной па яго мясьцінах.

Па шырокіх, зьдзічэлых кустох бэзу, што зелянеў, як астравок, сярод паджоўклага ўжо жыта, мы адразу пазналі на ўзгорку арандатарскую сядзібу. Пра яе нам расказала ў Жукавым Барку васьмідзесяцігадовая бабулька, дадаўшы пры гэтым, што недзе там, як чула яна ад старых, схавана залатая калясачка. Сярод травы мы знайшлі валун з падмурка, старыя, зь імхом, цагліны, ня зусім яшчэ засыпаныя ямы — ці не ад склепаў? Так, якраз тут і стаяла, пэўна, Сыракомлева хата.

Магчыма, у гэтым кутку „ціхай працы" Сыракомля застаўся-б да канца свайго жыцьця, калі-б аднойчы не напаткала яго няшчасьце: сьмерць дзяцей. „Магіла на стаўбцоўскім могільніку, — пісаў пра гэта паэта, — забрала ў мяне двое дзяцей — маю самую сьветлую надзею на будучыню. Хто ня быў бацькам, ніколі ня марыў, не зразумее таго болю. З гэтай часіны, — прызнаваўся ён, — старана, так дарагая сэрцу, стала для нас нявыноснай".

Сыракомля, як „бадзяга", пакідае тую „нявыносную старану", а мы, разам зь Цьвіркам і тымі, якіх ён „падхапіў" у „Волгу", шукаем далей сьлядоў:

„Пакінуўшы каля былой паэтавай хаты машыну, мы вырашылі прайсьці па вуліцы Жукавага Барка . . . Каля берагу Нёмана мы знайшлі стары каменны млын. Пануры, бародкамі імху, зарослы быльнягом — колькі праз яго вады ўцякло!

Але мяне больш за ўсё цікавіла уніяцкая царква, якую, як піша Сыракомля, „каля 1720 году залажыў тут Кароль Станіслаў Радзівіл, літоўскі канцлер". Аказваецца, яна прастаяла тут усе свае 250 гадоў і толькі нядаўна была зьнесеная (не магла пад сонцам „роднай партыі" выстаяць! — К. А.). На яе месцы мы знайшлі кучы бітай цэглы й друзу. Мікола Кавальчук шчыра шкадаваў („Гэта было ня пры мне, я-б такога не дапусьціў".) Ён пры гэтым расказаў мне, што ў царкве было шмат кніг, у тым ліку старажытных, а таксама рукапісных, дзе рэгістраваліся ўсе падзеі вёскі, асабліва нараджэньне, шлюб, сьмерць прыхаджан. Усе гэтыя кнігі, як яму сказалі, перавезьлі ў Стоўбцы, пра іх павінны ведаць у раённым аддзеле культуры.

Я адразу ўзгарэўся паехаць зноў у Стоўбцы. Гэтыя кнігі, асабліва рукапісныя, былі-б для мяне выдатнай знаходкай. Яны, канешне-ж, шмат чаго расказваюць пра ўсё „паэтычнае гняздо" — і пра Саламона Маймана, і пра Вінцэся Каратынскага, і пра Адама Плуга, і пра Ўладыслава Сыракомлю! (Усе гэтыя паэты й ведамы вучоны Майман жылі ў ваколіцы, — К. А.). У іх, пэўна-ж, хаваецца нямала тайнаў, якія памогуць дасьледчыкам вельмі многае растлумачыць зь гісторыі нашай культуры й літаратуры. Мне-ж, у прыватнасьці, яны-б дапамаглі разгадаць „загадку Сыракомлі". У паэты, як вядома, ёсьць нямала твораў, напісаных на матар'яле жыцьця мясцовых сялян".

Але-ж! Нябывалая знаходка! І Цьвірка, пэўне-ж, зь біцьцём сэрца, — бо разгадка-ж „тайны" блізка, — сьпяшыцца у Стоўбцы. І якое аграмаднае рашчараваньне!

„Але мае надзеі лопнулі, як той мыльны пузыр, калі я, вярнуўшыся ў Стоўбцы, зайшоў у аддзел культуры райвыканкома: там мне сказалі, што кнігі з жукаборскай царквы . . . спалілі. Убачыўшы маё зьдзіўленьне і рашчараваньне, Таіса Сьцяпа-

# ДРУГОЕ НАРАДЖЭНЬНЕ КАРАТКЕВІЧАВАЙ АПОВЕСЬЦІ „ДЗІКАЕ ПАЛЯВАНЬНЕ КАРАЛЯ СТАХА"

Летась у выдавецтве „Мастацкая Літаратура" выйшла кніга выбраных апавяданьняў і аповесьцяў Уладзімера Караткевіча „Вока тайфуна". Кніга гэтак названая ад аднайменнага апавяданьня ,зьмешчанага ў ёй. Апавяданьне гэтае, а таксама надрукаваныя ў кнізе апавяданьні „Былі ў мяне мядзьведзі", „Краіна цаганія" й „Калядная рапсодыя", друкаваныя колькі год таму ў літаратурных часапісах, а таксама зьмешчаная ў кнізе аповесьць „Лісьце каштанаў", гэта творы на сучасныя тэмы або пра мінуўшчыну недалёкае даўнасьці. Усе яны даволі цікавыя з боку мастацкага й з гледзішча на асэнсаваньне адлюстроўванае ў іх рэчаіснасьці ды належаць да лепшых дасягненьняў сучаснае беларускае літаратуры.

Але кніга „Вока тайфуна" набірае асаблівага значаньня з увагі на зьмешчаную ў ёй легэндарна-гістарычную аповесьць Уладзімера Караткевіча „Дзікае паляваньне Караля Стаха", што друкавалася яшчэ ў 1964 годзе ў часапісе „Маладосьць". Як ведама, Уладзімер Караткевіч у васноўным пісьменьнік гістарычнае тэмы. Але ў беларускай літаратуры навет пасьля асуджэньня сталіншчыны талеруюцца адно тыя творы на гістарычныя тэмы, што за часы Кастрычніцкай рэвалюцыі й грамадзянскай вайны, у рэдкіх выпадках за часы рэвалюцыі 1905 году далей углыбкі гісторыі не сягаюць. Затое Ўладзімер Караткевіч распрацоўвае ў сваіх творах тэмы стагадовае й ранейшае даўнасьці і ў сувязі з гэтым усьцяж знаходзіцца пад абстрэлам партыйнае крытыкі і ў няласцы з боку партыі. Не дарма-ж пісьменьнік Янка Брыль яшчэ ў 1966 годзе назваў Караткевіча выдатным пісьменьнікам, але пакульшто „ня лёгкага лёсу". Асабліва „нялёгкі лёс" спаткаў згаданую Караткевічаву аповесьць „Дзікае паляваньне Караля Стаха". І таму зьяўленьне гэтае аповесьці ў выдадзенай летась кнізе выбраных ягоных твораў, апавяданьняў і аповесьцяў „Вока тайфуна" мае сяньня асаблівую вымову.

Нялёгкая доля спаткала й іншыя Караткевічавы творы на гістарычныя й навет на сучасныя тэмы. Праўда, у лепшым палажэньні апыніліся дзьве першыя часткі ягонага гістарычнага раману „Каласы пад сярпом тваім" пра рэвалюцыйную дзейнасьць Кастуся Каліноўскага напярэдадні паўстаньня 1863 году. Раман гэты ўпяршыню быў надрукаваны ў скарочаным варыянце ў часапісе „Полымя" ў 1965 годзе. Хоць і зь вялікімі цяжкасьцямі, але ўсё-ж раман гэты і ў сваім поўным тэксьце выйшаў у 1968 годзе кніжным выданьнем, як дзьве першыя ягоныя кнігі.

Затое наступная трэйцяя кніга раману, у якой галоўная ўвага давалася самому паўстаньню 1863 году й вядучай у ім ролі Кастуся Каліноўскага, у „Полымі" ўжо не зьявілася, хоць пісьменьнікам была цалком падрыхтаваная да друку. Рэдакцыя „Полымя" паведамляла ў 1966 годзе, што трэйцяя й апошняя частка раману будзе надрукаваная ў гэтым часапісе ў 1967 годзе. Аднак у гэным годзе яна не зьявілася, а ейнае зьяўленьне было перасунутае на 1968 год. Але не зьявілася яна ў „Полымі" й да самага апошняга часу.

Прычыну гэтага незьяўленьня разгадаць ня цяжка. Як паведамляў ці раз і сам аўтар у друку, у трэйцяй кнізе раману „Каласы пад сярпом тваім" паўстаньне 1863 году было асэнсаванае ў зырка нацыянальным пляне, а асоба Кастуся Каліноўскага паказаная ня толькі як змагара за сацыяльнае, а й нацыянальнае вызваленьне Беларусі й ейнае ўнезалежненьне ад царскае Расеі. А гэта не магло быць сугучным партыйнай лініі. І таму надрукаваньне трэйцяй кнігі раману ў „Полымі" аказалася заблякаваным.

У сувязі з гэтым зьявай узапраўды рэвэляцыйнай становіцца надрукаваньне ў леташняй кнізе апавяданьняў і аповесьцяў Уладзімера Караткевіча „Вока тайфуна" аповесьці „Дзікае паляваньне Караля Стаха" дакладна паводля ейнага часапіснага варыянту 1964 году. А гэны часапісны тэкст ня менш нясугучны цяперашняй партыйнай лініі ў літаратуры, чымся й асэнсаваньне гістарычнай мінуўшчыны Беларусі ў заблякаванай сяньня трэйцяй кнізе раману „Каласы пад сярпом тваім".

У анатацыі ад выдавецтва „Мастацкая Літаратура", якое выдала летась выбраныя Караткевічавы апавяданьні, аповесьць „Дзікае паляваньне Караля Стаха" названая гістарычным дэтэктывам. У запраўднасьці-ж гэны гістарычны дэтэктыў, гэта легэндарна-гістарычны стрыжэнь усяе аповесьці, кампазыцыйна зьвязаны з усёй ейнай дзеяй і асэнсоўвае аўтараў пагляд на гістарычную мінуўшчыну Беларусі, як арганічную нацыянальную ідэю ня толькі ўва ўсёй мінуўшчыне, але і ў праекцыі на будучыню.

На фоне маральна й ідэйна ўпалага асяродзьдзя ў мінулых стагодзьзях Беларусі, якое й сымбалізуе фантастычна-легендарны прывід дзікага паляваньня Караля Стаха, пісьменьнік у рэалістычнай канве аповесьці паказвае двух сьведамых беларускіх адраджэнцаў шляхоцкага роду—Андрэя Беларэцкага, ад асобы якога вядзецца апавяданьне, і ягонага прыяцеля, таксама шляхоцкага роду — Сьвяціловіча.

Постаць Беларэцкага ўспрыймаецца як літаратурны прататып беларускіх фальклярыстых і этнографаў канца мінулага стагодзьдзя, што сваім культам народнае творчасьці будзілі цікавасьць і пашану да простага народу. А постаць Сьвяціловіча асацыюецца зь першымі пачынальнікамі беларускага нацыянальнага адраджэньня на чале з Францішкам Багушэвічам. Пра ідэйныя якасьці гэтых людзей добра сьветчаць словы Сьвяціловіча, скіраваньня да Беларэцкага ў мамэнт глыбокага рашчуленьня:

**„— Памятаеце, Беларэцкі, вашу прадмову да „Беларускіх песень, баляд і легэнд". Я памятаю: „Горка стала майму сэрцу, калі пабачыў я такую занядбанасьць нашых лепшых, залатых нашых слоў і спраў". Цудоўныя словы, за іх толькі даруюць вам усе грахі". А што-ж, калі ня толькі беларускае маё, калі чалавечае маё сэрца баліць ад занядбанасьці нашай і агульнай, ад болю, ад бясьсільных сьлёз няшчасных матак. Нельга, нельга так жыць, дарагі Беларэцкі!"**

І прывёўшы на ўспамін Кастуся Каліноўскага й ягоную сьмерць на шыбеніцы, Сьвяціловіч, на разьвітаньне зь Беларэцкім, выказвае поўныя аптымізму й рамантычнай узвышанасьці словы: **„Гады наперадзе! Далячынь! Сонца!"**

Інакш кажучы, нацыянальныя ідэі, за якія змагаўся й загінуў на шыбеніцы Кастусь Каліноўскі, якія працягвалі ў сваёй дзейнасьці беларускія адраджэнцы, маюць перад сабой далячынь і сонца, гэта значыць — будучыню! Вось чаму надрукаваньне ў леташняй кнізе выбраных апавяданьняў і аповесьцяў Уладзімера Караткевіча „Вока тайфуна" і гістарычна - легэндарнае аповесьці „Дзікае паляваньне Караля Стаха" дакладна паводля ейнага часапіснага варыянту 1964 году, гэта ўзапраўды другое нараджэньне гэтае аповесьці. Чым гэтая зьява выкліканая, сяньня згадваць яшчэ рана. Гэта пакажа недалёкая будучыня. Сяньня-ж ясна адно: леташняе надрукаваньне Караткевічавай аповесьці „Дзікае паляваньне Караля Стаха" ў ягонай кнізе „Вока тайфуна" ўзапраўды мае асаблівую вагу для сяньняшняй беларускай літаратуры.

**Андрэй Сяліба**

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце газэту Беларусаў у Вольным Сьвеце „БЕЛАРУС"**

## ПАМЁР ВІКТАР АСТРОУСКІ

31 жніўня сёлета а 9-ай гадзіне раніцай раптоўна памёр сьв. пам. Віктар Астроўскі, сын Радаслава Астроўскага. У ягоных пахаронах, што адбыліся 5 верасьня ў Лёндане, прынялі ўдзел Беларусы розных арганізацыяў.

Віктар Астроўскі нарадзіўся 28 жніўня 1912 году ў Пінску. Вучыўся ў Беларускай Гімназіі ў Вільні. Вышэйшыя студыі інжынера аграноміі скончыў на ўнівэрсытэце ў Пазнані. Пасьля заняцьця савецкай арміяй Заходняй Беларусі ўвосені 1939 году, Віктар Астроўскі быў арыштаваны й вывезены на Сібір. У часе вайны прыстаў да 2-га Польскага Корпусу ген. Ул. Андэрса і прайшоў з гэтым Корпусам усю ваенную кампанію.

Па вайне апыніўся ў Лёндане, належаў спачатку да Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі й даў грашовую ахвяру на куплю Беларускага Дому ў Лёндане. Калі-ж паўстаў разьдзел паміж Беларусамі ў Ангельшчыне, Віктар Астроўскі спачатку падтрымліваў ХАБР. Выдаў у Лёндане свайго аўтарства й сваім коштам некалькі, пераважна гістарычных, кнігаў, як „Жыды ў Беларусі", „Старадаўнія карты Беларусі" ды цэлы рад розных брашураў. Апошнімі гадамі быў поўнасьцяй адданы Беларускай Бібліятэцы й Музэю Францішка Скарыны ў Лёндане, якім дапамагаў, як мог, у зьбіраньні беларускіх геаграфічных картаў. Пра гэтыя беларускія навуксвыя ўстановы не забыўся ён і перад сваёй сьмерцяй. Усе свае зборы — кнігі й карты Беларусі ён ахвяраваў Беларускаму Музэю й Бібліятэцы Францішка Скарыны ў Лёндане.

**Светлая Яму памяць!**

**Лёнданскі**

# ПАВЫШЭНЬНЕ ЎВАГІ ДА РОДНАЕ МОВЫ

Самымі апошнімі гадамі й асабліва сёлета выразна зазначылася ў культурным жыцьці Беларусі павышэньне ўвагі беларускімі моваведамі й наагул працаўнікамі ў галіне культуры да роднае беларускае мовы. Зьява гэтая разьвіваецца раўналежна й у сувязі зь іншай ня менш важнай культурнай зьявай: павышэньнем увагі да беларускай народнай творчасьці й фальклёру.

Гэтае павышэньне ўвагі й патрыятычнай любасьці да роднае мовы, між іншым, добра ілюструе, здавалася-б, на першы пагляд, дробны й ня варты ўвагі факт. „Зьвязда" ў сваім нумары за 2 верасьня сёлета зьмясьціла плякат-гравюру пад назовам „Лясная школа" работы мастака Купавы. Пад гравюрай выкаліграфаваны вялікімі прыгожымі літарамі надпіс: **„У змаганьні волю здабывалі і як волю мову берaглі"**.

Гравюра прысьвечаная партызанскай лясной школе. Школы гэткія мясцамі арганізавалі партызаны ў часе мінулай вайны для дзяцей цывільнага жыхарства, што, ратуючыся перад помстай эсэсаўскіх карнікаў за партызанскія дывэрсіі, цэлымі сем'ямі йшлі ў лес і далучаліся да партызанаў, або самі партызаны прымусова выганялі цывільнае жыхарства разам зь сем'ямі ў лес у моц розных сваіх палітычных і практычных мяркаваньняў. Але згаданыя „лясныя школы" ў васноўным былі расейскія, а ня беларускія, бо й афіцыйнай мовай партызанскага камандаваньня была, як добра ведама, расейская мова, а беларуская мова адно часамі дапускалася, побач з расейскай, для чыста прапагандавых і практычных мэтаў. У згаданай гравюры-плякаце, як можна судзіць паводля сяньняшняй тэндэнцыі сярод беларускіх моваведаў, ход пра беларускую родную мову. І гэта мае сваю асаблівую вымову на фоне русыфікацыйнай партыйнай палітыкі ў дачыненьні да беларускай мовы.

Павышэньне ўвагі да роднае мовы выразнае апошнімі гадамі і ў навуковай дзейнасьці Інстытуту мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навукаў Беларускай ССР. Газэта „Літаратура і Мастацтва" за 1-га жнівеня сёлета надрукавала абшырную інфармацыю пра навукова-дасьледвальную дзейнасьць паасобных сэктараў Інстытуту, падчыркнуўшы, што дзейнасьць гэтая адыгрывае важную ролю ў разьвіцьці нацыянальнай беларускай культуры. Зь інфармацыі гэтай чытач даведваецца, якую калясальную ролю й пераважна ўпяршыню ў беларускай навуцы адыгрывае Інстытут перш-наперш у галіне інтэнсыўнага зрыхтоўваньня самых розных катэгорыяў слоўнікаў.

Гэтак, апрача „Тлумачальнага слоўніка сучаснай беларускай мовы" ў пяцёх тамох, над якім адпаведны сэктар Інстытуту працаваў 15 год і які мае быць выдадзены на працягу 1976-80 гадоў, сэктар пачынае працу над вялікім „Тлумачальным слоўнікам мовы беларускай літаратуры XIX-XX стагодзьдзяў". Мяркуецца, што слоўнік будзе зьмяшчаць 150-180 тысячаў словаў і будзе выдадзены ў 12-15 тамох. Слоўнік гэты, як сказана ў інфармацыі, станецца ўнівэрсальным даведнікам па ўсёй лексыцы, што знайшла адлюстраваньне ў беларускай мастацкай, публіцыстычнай і навуковай літаратуры апошніх двух стагодзьдзяў. Можна сказаць наперад, што каштоўнасьці абодвых тлумачальных слоўнікаў нельга будзе пераацаніць.

Ня менш каштоўным можа аказацца гістарычны слоўнік беларускай мовы, які зрыхтоўваецца ў сэктары гісторыі беларускай мовы. Пра слоўнік гэты інфармуе старшы навуковы супрацоўнік Інстытуту. А. Булыка. У картатэцы гэтага слоўніка звыш аднаго міліёну картак словаў, выпісаных з помнікаў беларускай пісьменнасьці старажытнага пэрыяду. Картатэку пачалі складаць яшчэ ў 1960 годзе, а цяпер поўным ходам вядзецца зрыхтоўваньне слоўніка, які мае быць завершаны да 1985 году. Пра тое, якую вялікую каштоўнасьць будзе мець гэты слоўнік і якая інтэнсыўная дзейнасьць вядзецца над ягоным зрыхтаваньнем, можна мець уяўленьне з наступных словаў М. Булыкі:

**„У гэтых шафах захоўваюцца фотакопіі амаль усіх помнікаў беларускай пісьменнасьці старажытнага пэрыяду. Раней, чым распачаць работу над слоўнікам, нам прыйшлося адшукваць старабеларускія помнікі ў кнігасховішчах Менску, Масквы, Ленінграду, Вільні, Львова, Адэсы і іншых гарадоў нашай краіны. Атрымалі мы таксама копіі помнікаў зь бібліятэк Варшавы, Пазнані й Лёндану. У выніку нам удалося сабраць амаль усе старабеларускія помнікі. Другога такога збору ў рэспубліцы няма".**

Ня менш інтэнсыўная праца ў сэктары дыялекталёгіі, у якім праводзіцца зьбіраньне, вывучэньне й публікацыі слоўнікаў і працаў з галіны дыялекталёгіі. Тут заслугоўвае на асаблівую ўвагу выдадзены яшчэ ў 1963 годзе „Дыялекталягічны

**(Заканчэньне на 5-й бачыне)**

---

наўна Дзіянава, супрацоўнік аддзелу культуры, параіла мне схадзіць да качагара, які паліў кнігі — магчыма ў яго што-небудзь ды засталося. Жыве ён недзе на вуліцы Гагарына. Зваць — Міхаіл Кандратавіч Пляскач".

І вось наш асьпірант Цьвірка, з маленькай іскрынкай надзеі, сьпяшыць да Міхаіла Кандратавіча. Тойжа, „ня надта стары, моцны чалавек" расказвае нашаму падарожніку:

„— Што праўда — то праўда, кнігі мы спалілі. Звалілі к нам, у качагарку — прайсьці ня было як. Яны там доўга ляжалі. Усе Стоўбцы хадзілі туды — што хто хацеў, тое і браў. Кніг гэтых было, можа, дзьвесьце — цэлая гара. Усякія там былі — і друкаваныя, і так, ад рукі пісаныя. Якім было мо па тысячу год—тоўстыя, шчарнелыя, крыж залачоны пасярэдзіне. У другіх было запісана, калі хто радзіўся, вянчаўся, прычашчаўся. Я дажа сябе там быў знайшоў . . . Чакалі мы, чакалі, калі іх забяруць, асвабадзяць нам праход і — па кнізе, па кнізе — пачалі падпальваць імі ў печы. Нас тады чатырох было, качагараў. На зьмену палілі. Больш як на месяц хапіла іх для распалу . . .

— А хто прывёз іх да вас, гэтыя кнігі?

— Распараджаўся імі былы намесьнік старшыні райвыканкома Ліцко, — адказаў Пляскач. — Ня ведаю, можа, ён ня ўсе нам сьцінуў".

Ня згадвае Цьвірка, ці гэны качагар Пляскач быў „ударнікам" ці „гэроем сацыялістычнай працы", ці звычайным „работнікам вытворчасьці". Пэўне-ж, такіх во красачак, як Пляскач і Ліцко, цімала ўзбуйнела ў гэным „нябывалым росквіце сацыялістычнай культуры".

Праўда, нюхаючы па Стоўбцах, Цьвірка натрапіў на іншую групу кніг, зь Вялікасульскай царквы . . . Відаць, варвары вынішчаюць сьвятыні й нашае пісьмовае багацьце сыстэматычна.

Зразумеўшы жах такіх незваротных стратаў, Цьвірка заклікае: „Давайце-ж, дарагія таварышы, пакончым, нарэшце, з такой нашай абыякавасьцю да культурнай спадчыны народу. Мы-ж — гаспадары сваёй зямлі!"

Вось гэта гаспадары! Як патэтычна й трагічна гэта гучыць у Цьвіркавых вуснах. Вось што запраўдныя варвары-гаспадары зрабілі з нашымі сьвятынямі, з народнымі архівамі, як выпаласкалі з усяго чалавечага й беларускага душы людзей!

Нас, Беларусаў, кавалкі бацькаўшчыны якіх „родная партыя" шчодра параздавала суседзям, цікавяць і нашы суродзічы паза БССР. І гэта зь Цьвіркавай візыты ў Барэйкаўшчыну, вёску ў Ашмяншчыне (цяпер у Лятувіскай ССР), дзе жыў „вясковы лірнык" Сыракомля, даведаемся шмат.

„Галоўнае, што мне хацелася ў Барэйкаўшчыне, — працягвае Цьвірка, — гэта пазнаёміцца зь людзьмі, пагутарыць зь імі, пачуць расказы, паданьні і асабліва мову аднавяскоўцаў паэты. Ванда (бібліятэкарка) завяла мяне ў адну з бліжэйшых хат, да васьмідзесяцігадовага Баляслава Антонавіча Рамаyоўскага. Высокі кударлязы стары, пакашліваючы, з ахвотай расказаў пра сваё жыцьцё, пра сваю вёску. Старога дапаўняла, падсеўшы да стала, за якім мы сядзелі, яго дачка Ўладыслава, рухавая і гаваркая жанчына, работніца саўгаса „Рукойны". Жывуць тут яны здаўна. Іх дзяды і прадзеды таксама мясцовыя. З каталікаў. Называюць сябе Палякамі. Два сыны Баляслава Антонавіча пераехалі ў Польшчу, прыжыліся там. А самому і дачцэ падабаецца тут, дома. Гаворка наша цякла вольна, натуральна. Мова гаспадароў хаты як і іншых мясцовых жыхароў, ня гледзячы на нязначную колькасьць польскіх слоў, была ўсё-ж у сваёй аснове, як адзначаў яшчэ і Сыракомля, беларуская.

Дарэчы , пра школы. І ў Рукойнях (ці паафіцыйнаму Рукайняй), цэнтры сельсавету (за паўтара кілямэтра ад Барэйкаўшчыны), і ў іншых вакольных вёсках — школы польскія. Адкрыты яны па жаданьню насельніцтва. Як расказаў мне дырэктар Рукайнянскай сярэдняй школы, Леанід Ільіч Палонскі, у школе вучні вывучаюць некалькі моў: рускую, польскую, літоўскую і нямецкую. Апрача таго, усе яны нядрэнна ведаюць таксама беларускую. (Во, во! Ведаць ведаюць, але роднае мовы ня вывучаюць! — К. А.).

Далей Цьвірка называе некаторыя вёскі беларускія, дзе ён быў і ўсе назовы якіх пазьмянялі бальшавікі-Лятувісы. І робіць выснову: „Цяпер я меў, хоць ня поўнае, але ўсё-ж нагляднае ўяўленьне пра гэты край, пра тую новую зямлю, якая ў апошнія гады паэты жывіла яго звонкую музу".

Цікава якую музу можа цяпер натхніць гэтая забраная беларуская зямля? Пры Сыракомлі ўсё-ж ня было аж трох гаспадароў, як цяпер — закарэлая польшчына, што зьвіхнула карэнных Беларусаў, лятувіскія маскоўскія цівуны, ну й сам „старшы брат!"

Бедная зямля Багушэвіча й Сыракомлі!

Ідучы сьлядамі паэты й выдатнага сына беларускае зямлі, які ганьбаваў прыгон і змагаўся зь ім, ня мог-жа наш адукаваны падарожнік па „індывідуальным маршруце" не параўноўваць таго калішняга царскага прыгону, зь якім змагаўся аб'ект яго досьледаў, з тым, зь якім сустракаўся цяпер удоўж і ўшыр бацькаўшчыны Цьвірка, — прыгонам калгасным. Ён часта згадвае, як прыгоньнікі - калгасьнікі наракалі, што моладзь пакідае вёску, калгаснае поле. Што падрастуць хлапцы й дзяўчаты — шусь ходам з калгасу! Бязумоўна, ані Цьвірка, ані калгасьнікі ня могуць назваць прычынаў гэтай суцэльнай дэзэрцыі.

Магло-ж, пэўне ў Цьвіркі, — як відаць з кнігі ў васнове чалавека сумленнага й патрыёты — паўстаць і іншае параўнаньне. А гэта тое, што гаротнік бюракрат, а пасьля арандатар, а перадусім пісьменьнік і паэта Уладыслаў Сыракомля, хаця ня мог пісаць на роднай мове, але выказваньні ягоныя пра прыгон і крытыка сэстэмы ўсё-ж зьяўляецца ў друку, хоць і чужым і часам далёкім. Цьвірка можа пісаць у роднай мове, але няхай паспрабуе крытыкаваць калгасна-прыгонную сыстэму. Тады, бязумоўна, ня будзе падарожнічаць па роднай бацькаўшчыне! Вось і прагрэс!

**К. Акула**

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Магістар Біяхіміі Раіса Станкевіч** 20 верасьня сёлета мела даклад пра вынікі ў сваёй дасьледніцкай працы за гэты год у галіне дасьледваньня рака. Яна працуе ў Sloane-Kettering Cancer Center, які спэцыялізуецца ў дасьледваньнях усіх відаў рака й спакроўненых з ракам хваробаў. Даклад гэты быў наладжаны Жаноцкай Хімічнай Прафэсыяльнай Арганізацыяй для студэнтаў, дактароў і сяброў гэтае арганізацыі. Даклады на падобныя тэмы мелі яшчэ тры жанчыны — навукоўцы ў гэтай галіне.

**У гадавіку Энцыкляпэдыі Брытаніка за 1975 год,** у даведцы пра расейскую й савецкую літаратуру, згадваецца „Мы дзеці аднае маці" Пятруся Броўкі з зазначэньнем, што гэта пераклад зь беларускае мовы.

**Супраць „бебурнацаў"** выйшла яшчэ адна кніжыца ў сэрыі „Бібліятэчка газэты ‚Голас Радзімы'". Напісаў яе кандыдат філялягічных навукаў Іван Сачанка. Кніжыца (94 бачынкі малога фармату) азагалоўленая „Хто такія беларускія ‚патрыёты'?" У параўнаньні зь іншымі публікацыямі КДБ-ўскага „Голасу Радзімы", у ёй нічога новага — перапеў таго, што, быццам-бы, было за часамі апошняе вайны. Адна рэч новая, праўда, ёсьць — заява „Голасу Радзімы" ў звароце „Да чытача". Заява гэтая прынцыповая і ўнівэрсальная. Да каго яна больш прыстае — да самога „Голасу" й ягоных засакрэчаных выдаўцоў ці да „бебурнацаў" — пастановіць сам чытач Сачанкавае кніжыцы, якому рупны выдавец тлумачыць:

„Злачынствы бываюць малымі, нязначнымі, буйнымі, хлусьня-ж заўсёды застаецца вялікай. Так бывае ня толькі ў паўсядзённым жыцьці, але і ў палітыцы, таму што палітыку робяць людзі із звычайнай чалавечай псыхалёгіяй. Палітычныя злачынствы, аднак, маюць тую асаблівасьць, што вялікая хлусьня, якая іх суправаджае, прымае выгляд прапаганды. Да прапаганды-ж, асабліва калі яе настойліва вядуць сучасныя сродкі масавай інфармацыі, людзі адносяцца больш асьцярожна і ўважліва, чым да маны звычайнага крымінальніка. Вось чаму выкрываць палітычную хлусьню і цяжэй, і патрэбней — яна ўзьдзейнічае не на адзінку, а на масы людзей".

На масы людзей выданьні „Голасу Радзімы" й разьлічаныя . . .

**У вадзін голас з „Голасам".** Ад леташняга году В. Сукяньніцкі друкуе ў польскім парыскім месячніку „Культура" агляды культурна-палітычнае дзейнасьці беларускае эміграцыі. Паколькі глыбей знаёміцца зь беларускім жыцьцём аўтар аглядаў пачаў толькі нядаўна, чытача „Культуры" ягоныя інфармацыі ці раз больш уводзяць у блуд як інфармуюць. Награмаджэньнем фікцыйных ведамак адзначаецца асабліва артыкул пра С. Хмару („Культура" 5, 1975). Бурлівыя прыгоды гэроя свайго нарысу Сукеньніцкі апісвае блізу вылучна на падставе інфармацыяў, узятых з Хмаравага „Голасу". Да людзей-жа сьціплых Хмара, як ведама, не належыць і геройчных хвалбаў для свае аўтабіяграфіі ніколі не шкадуе. Што ў гэтым праўда, што выдумка, самахвальба ды дэмагогія — разабрацца ў гэтым чужому, пэўна-ж, не пад сілу. Сукеньніцкі навет верыць, што Хмара, якога даўно павыкідалі з усіх беларускіх арганізацыяў у Канадзе, мае ў сваёй групе аж 30 сяброў.

**"Byelorussian Youth — Беларуская Моладзь",** Лета 1975 год 3, № 4/38, выйшла з друку й зьмяшчае ў ангельскай мове: Рэдакцыйны артыкул Раісы Станкевіч пра перахаваньне беларускай спадчыны, гістарычны артыкул пра Полацкую Зямлю Раісы Станкевіч, артыкул Юркі Азаркі пра тое, як беларусаведа дапамагае ў фармаваньні будучыні, верш Макса Дана з Аўстраліі, інфармацыю пра беларускіх савецкіх спартоўцаў, два вершы Юркі Акулы з Канады, агляд Юркі Курылы мастацкіх выступленьняў моладзі ў часе сёлетняга „Каравану" ў Таронта, багатую хроніку зь беларускай маладзежнай дзейнасьці з асаблівай увагай на адзначаньне сёлетніх 25-х угодкаў ад заснаваньня АБАМ. На беларускай мове зьмешчаны ўсяго адзін верш Ларысы Геніюш „Майму Сыночку".

**Беларуская мова заплянаваная як прадмет** на летні сымэстар 1976 году на адным з каледжаў ЗША. Плянаваньнем займаецца тымчасам Міжунівэрсытэцкая Рада для Ўсходняэўрапейскіх Моўных Праграмаў Вірджыніяўскага ўнівэрсытэту ў Шарлётсвіле, штат Вірджінія. Даведацца пра курс дэтальней можна тэлефанічна: (804) 924-3548.

**Генэральны Пракурор штату Нью Ёрк Люі Леўкавіц** забараніў г. зв. Катэдры Навукі Амэрыканскага Сусьветнага Патрыярхату выдаваць дыплёмы з навуковымі ступенямі (якіх ад 1972 году да часу забароны было выдадзена больш за 400 без дазволу на гэта адпаведных уладаў). Пра гэта падала газэта „Нью Ёрк Таймс" за 22 верасьня сёлета.

**Жыцьцё Беларусаў штату Нью Джэрзі** будзе адлюстравана на выстаўцы, што адчыніцца ў сталіцы штату Трэнтане, у будынку штатнага музэю, на пачатку лістапада сёлета ды будзе трываць месяц часу. Беларускі аддзел міжэтнічнае выстўкі будзе складацца з колькіх сотняў фатаграфіяў зь гісторыі Беларусаў штату Нью Джэрзі. Выстаўку арганізавала штатная камісія для адзначэньня двухсотгодзьдзя Амэрыкі.

# БЕЛАРУСЬ НА МІЖНАРОДНЫХ КАНФЭРЭНЦЫЯХ

На Дэтройцкім унівэрсытэце 3-4 кастрычніка сёлета адбылася канфэрэнцыя на тэму „Нацыяналізм у Савецкім Саюзе й Усходняй Эўропе пад Брэжневам і Касыгінам". Адна з сэсіяў канфэрэнцыі была прысьвечаная пытаньню разьвіцьця падзеяў на Беларусі ў пахрушчоўскім пэрыядзе. За старшыню сэсіі быў праф. Янка Садоўскі з Квінсаўскага ўнівэрсытэту з Канады. Даклады пра Беларусь прачыталі праф. Янка Запруднік з Гарадзкога Ўнівэрсытэту Нью Ёрку (пра агульнае разьвіцьцё на Беларусі) і др. Вітаўт Кіпель з Ньюёркаўскае Публічнае Бібліятэкі (пра разьвіцьцё беларускае эканомікі).

У канфэрэнцыі ўзяло ўдзел каля двухсот асобаў, было прачытана 38 дакладаў пра асноўныя кірункі разьвіцьця ў савецкіх рэспубліках, а таксама ў Польшчы, Чэхаславаччыне, Вугоршчыне, Югаславіі й Альбаніі. Матар'ялы канфэрэнцыі маюць выйсьці неўзабаве асобнай кнігай у выдавецтве Дэтройцкага ўнівэрсытэту.

На гадавым зьезьдзе Асацыяцыі Амэрыканскіх Славістых, што адбыўся ў гор. Атлянце, штат Джорджыя, ад 8 да 11 кастрычніка сёлета, др. Я. Запруднік прачытаў даклад на тэму „Праблемы тэрміналёгіі й пэрыядызацыі гісторыі Беларусі". Даклад мае быць апублікаваны ў вадным з англамоўных навуковых часапісаў.

Удзел у зьезьдзе Асацыяцыі Амэрыканскіх Славістых узяў таксама праф. Ант. Адамовіч як прадстаўнік Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

На славістычным зьезьдзе ў Атлянце, на якім узяло ўдзел каля 700 асобаў, выявіўся рост зацікаўленьня амэрыканскіх навукоўцаў да гісторыяў нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу — вынік прыплыву ў амэрыканскую славянаведу маладых спэцыялістых, на якіх заўважаецца меншы ўплыў старое русыфікацыйнае школы.

Гасьцінныя Беларусы Дэтройту наладзілі ў сваім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры прыняцьцё для беларускіх дакладчыкаў ды іншых удзельнікаў Канфэрэнцыі: праф. Антона Адамовіча, д-ра Вітаўта й сп-ні Веры й д-ра Вітаўта Рамукоў, сп. сп. Кастуся Акулы й Антона Маркевіча ды іншых прыезджых. У выступленьнях на бяседзе адзначалася роля інж. Янкі Бруцкага, беларускага прадстаўніка ў Радзе Нацыянальнасьцяў у Дэтройце (ён-жа старшыня мясцовага Аддзелу БАЗА), якая брала ўдзел у арганізацыі Канфэрэнцыі. Госьці дзякавалі таксама сп-ву Сажычам за прыняцьцё-падарунак у іхны гонар.

**З.**



# ЗЬ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ПЕРАКЛАДУ ЕВАНГЕЛЬЛЯ

Пра выдатную ролю Францішка Скарыны ў нашай мінуўшчыне й сучаснасьці — Скарынаў пераклад Бібліі ў беларускую мову на пачатку шаснаццатага стагодзьдзя — ведама бадай кажнаму з нас. Пра гэта вучаць у школах, пра гэта можна шмат дзе прачытаць у савецкіх і замежных выданьнях, асабліва ў працах ведамага скарынаведа др. Вітаўта Тумаша. У Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, прыкладам, ня толькі зьмешчаны артыкул пра Скарыну, але й у кароценькім артыкуле „Біблія" кажацца: **„Заслугоўвае ўвагі выданьне Бібліі Францыскам Скарынам у 1517-19 гадох. Скарына выдаваў біблейскія кнігі на роднай мове са сваімі прадмовамі й пасьляслоўямі".**

Нідзе, аднак, у савецкіх выданьнях ні словам ня кажацца пра пераклад Бібліі ў сучасную беларускую мову. Маўчыцца, ведама-ж, не затым, што тэма малаважная. Прыклад Францішка Скарыны найлепш паказвае, што пераклад Бібліі ў родную мову — гэта ня толькі чыста рэлігійная справа: Скарынава-ж Біблія мае важнасьць і для гісторыі нашае культуры, гісторыі друку, мовы, працэсу станаўленьня нацыянальнае сьведамасьці. Не зважаючы на ўсё гэта, савецкая гістарыяграфія сыстэматычна ігнаруе дасьледваньне пытаньня, а як-жа працягваецца скарынінская традыцыя ў нашым дваццатым стагодзьдзі?

Вялікую цікавасьць у сувязі з гэтым мае нядаўна апублікаваная праца брытанскага дасьледніка Гая Пікарды пра пачаткі беларускага выданьня Новага Запавету й Псальмаў 1931 году. Артыкул сп. Пікарды надрукаваны паангельску ў падвойным, першым-другім, сёлетнім нумары выдаванага ў Лёндане часапісу „Божым Шляхам". Артыкул напісаны галоўна на аснове архіўных матар'ялаў Брытанскага й Замежнага Біблійнага Таварыства, і чытаецца проста як дэдэктыў: гэткая складаная была гісторыя, гэткія пакручаныя былі шляхі, па якіх вялася справа беларускага перакладу й выданьня Евангельля. Рэч у тым, што ўся гэтая справа была зьвязаная зь пераадольваньнем цэлае процьмы перашкодаў: палітычных, нацыянальных, асабістых, непаінфармаванасьці пра Беларусь, няведаньня, і проста хлусьні. Захапляльная гэтая гісторыя і асабістай драмай, часта трагэдыяй, а разам з тым гэраічным высілкам людзей, зьвязаных з выданьнем Евангельля пабеларуску. Уся гэтая справа паказвае таксама, як паступова ўваччу заходня-эўрапейцаў, у меру бліжэйшага азнаямленьня зь гісторыяй Беларусі, адпадала паняцьце пра беларускую мову як цёмны дыялект ды радзілася бачаньне яе як мовы з багатай гістарычнай традыцыяй і ўсімі грамадзкімі правамі.

Выхад у сьвет у 1931 годзе беларускага перакладу Евангельля цесна зьвязаны зь місіянерскай дзейнасьцяй на тэрыторыі Паўночна-Ўсходняе Эўропы Брытанскага й Замежнага Біблійнага Таварыства з цэнтрам у Лёндане ды з працэсам пашырэньня 1920-мі гадамі на землях Заходняе Беларусі баптызму. Баптызм гэнымі часамі (а можа й сяньня?) пашыраўся сярод Беларусаў у сілу ягонае палітычнае нэўтральнасьці, так сказаўшы. Баптызм, у вадрознасьць ад праваслаўя й каталіцтва, ня быў зьвязаны з русыфікаваньнем і палянізаваньнем Беларусаў. Пра баптызм не казалі, што гэта „руская" або „польская" вера, і затым з узмоцненай сілай ён пачаў прыцягваць да сябе масу вернікаў у Заходняй Беларусі. Гай Пікарда падае цікавыя сьветчаньні гэтага. Гэтак, прыкладам, карэспандэнт лёнданскае газэты „Таймс" паведамляў у 1926 годзе пасьля наведаньня Заходняе Беларусі: **„Тысячы сялянаў адварачваюцца ад традыцыйных багаслужбаў Расейскае Праваслаўнае Царквы ды праводзяць сходы евангелічнага тыпу, ведамыя на працягу апошняга паўстагодзьдзя ў Вялікабрытаніі й Амэрыцы. Асаблівай папулярнасьцяй карыстаюцца адроджваныя рэлігійныя песьні. Гэткія багаслужбы сярод ‚вернікаў', як яны сябе завуць, нагэтулькі папулярныя,** — пісаў карэспандэнт газэты „Таймс", — **што калі я ў вадным сяле прамаўляў да сходу, дык мясцовая царква зусім апусьцела".**

Два гады па гэтым лёнданская мэтадысцкая місія паведамляла зь Вільні пра рост у Заходняй Беларусі пратэстанцкіх місіяў: лютаранскіх, рэфармаваных евангелістых, баптыстых, мэтадыстых ды іншых.

У сувязі з гэтым штораз часьцей пачало ставіцца пытаньне беларускага перакладу Евангельля, на якое быў шырокі попыт. Справа гэтая наагул была актуальнай напрацягу ўжо колькіх гадоў, асабліва ад 1925 году, калі за сакратара Брытанскага й Замежнага Біблійнага Таварыства на Паўночна-Ўсходнюю Эўропу быў назначаны Ўільфорд Джэймс Ўайзмэн. Роля Ўайзмэна ў выданьні беларускага перакладу Евангельля вельмі вялікія. Наведаўшы ў 1928 годзе Вільню, цэнтар беларускага культурнага жыцьця ў Заходняй Беларусі, Ўайзмэн пісаў у Лёндан: **„Беларусы былі адным зь першых народаў, што мелі Сьвятое Пісаньне ў сваёй мове. Было гэта ў 1517 годзе, восем год перад тым як было выдрукаванае першае выданьне паангельску".** Пішучы пра тое, што ён бачыў вакол сябе ў Заходняй Беларусі, Ўайзмэн тады-ж паведамляў: **„Узровень няпісьменнасьці вельмі высокі. Продкі Беларусаў мелі чатырыста гадоў таму сваю Біблію, а сяньня яе засталося толькі два экзэмпляры. З забаронаю й зьнішчэньнем кнігі патухла сьвятло й вера".**

Пасьля даўгога ліставаньня розных асобаў, кансультацыяў з рознымі экспэртамі-моваведамі, ці беларуская гаворка — дыялект ці самастойная мова, у Брытанскім і Замежным Біблійным Таварыстве было пастаноўлена падтрымаць справу выданьня Евангельля пабеларуску. Праца над перакладам Евангельля, што вялася самастойна Беларусамі яшчэ ад 1920 году, пайшла асабліва інтэнсыўна ад 1927 году, пасьля таго, як польскае міністэрства да справаў культуры й рэлігіі заявіла, што яно ня будзе мець нічога супраць выданьня Евангельля пабеларуску.

Уся гэтая праца наагул была нязвычайна складанай і цяжкай, і ў яе ўлучылася, як у вагульнанацыянальную справу, шмат асобаў. Асабліва выдатную ролю ў першай стадыі высілку адыгралі: Лукаш Дзекуць-Малей із Слонімшчыны, бабтысцкі дзеяч (памёр у 1955 годзе ў Амэрыцы ў 67-гадовым веку); Гальляш Леўчык-Ляўковіч, беларускі паэта; Аляксандар Уласаў, былы рэдактар газэты „Наша Ніва"; Фэлікс Стэцкевіч, дырэктар Беларускае Гімназіі ў Радашкавічах; Браніслаў Тарашкэвіч, ксёндз Адам Станкевіч, палкоўнік Езавітаў, сакратар Беларускага Настаўніцкага Саюзу ў Лацьвіі Красьневіч ды шмат іншых. Асаблівая заслуга ў гэтым належыцца Лукашу Дзекуць-Малею, які працаваў над перакладам Евангельля ад 1920 году ды які быў душою ўсяе гэтае справы на працягу цэлага пэрыяду рыхтаваньня да друку. Асноўны-ж цяжар рэдактара й стылістага ўзяў на свае плечы Антон Луцкевіч. Гэты ахвярны патрыёт, піша Гай Пікарда ў сваім артыкуле, паўстае перад намі як адна зь вядучых і найбольш цікавых постацяў беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Пасьля ўсіх складаных пэрыпэтыяў з пытаньнем устанаўленьня запраўднага статусу беларускае мовы, пасьля шматгадовае й мазолістае працы ў цяжкіх умовах матар'яльных нястачаў, пераклад Евангельля ў беларускую мову быў завершаны і ў 1931 годзе, у баптысцкім выдавецтве „Компас" у Лодзі, кніжка была надрукаваная. Рукапісы перакладу Лукаша Дзекуць-Малея й рэдактарскі экзэмпляр Антона Луцкевіча знаходзяцца сяньня ў архівах Брытанскага й Замежнага Біблійнага Таварыства ў Лёндане.

Гай Пікарда згадвае таксама ў сваім артыкуле пазьнейшыя пераклады частак Евангельля, зробленыя асобна праваслаўнымі й каталіцкімі духоўнікамі ў 1930-х гадох: Сяргеем Паўловічам, Адамам Станкевічам, Вінцэнтам Гадлеўскім, а таксама выдадзеныя ўжо на эміграцыі па апошняй вайне: Новы Запавет а. др. Пятра Татарыновіча й Біблю др. Янкі Станкевіча. Ніводзін зь іх, аднак, піша Гай Пікарда, не перавысіў у сваёй папулярнасьці выданьня 1931 году.

У 1946 годзе, на прапанову др. Вітаўта Тумаша, сучаснага старшыні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, беларускі пераклад Евангельля з Псалтыром Антона Луцкевіча быў выдадзены другім выданьнем.

Тут-жа неабходна адзначыць, што грунтоўнае дасьледваньне Гая Пікарды — гэта паважны ўклад у беларускую навуку, за што беларускае грамадзтва застаецца яму вельмі ўдзячным.

**Я. З.**

## ПРА ВЫСТАЎКУ АБРАЗОЎ СТ. ТАМАРЫ

Газэта „Асбуры Парк Прэс" (20. 8. 75) зьмясьціла абшырны ілюстраваны рэпартаж і прыхільны водгук пра выстаўку абразоў ведамае беларускае мастачкі Ст. Тамары. Выстаўка адбылася на працягу жнівеня ў будынку Саюзу (Гільды) Творчага Мастацтва ў Шрузбуры, Н. Дж. У артыкуле адзначанае замілаваньне мастачкі да прыроды, якую яна дапамагае гледачу „бачыць" мэтадам традыцыйнага й уніклівага рысунку.

На працягу апошніх васьмёх гадоў абразы Ст. Тамары (алей, дрывbooks, літаграфіі, туш і інш.), паводля прэсавага камунікату арганізатараў выстаўкі, паказваліся на 97 мастацкіх выстаўках у 19 штатах.



# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**У папярэднім пэрыядзе (верасьні 1975 г.) паступілі ў касу нашае газэты наступныя падпіска й ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**І. ЗША:**

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Інж. В. Станкевіч | $ 20.00 |
| 2. | В. і М. М. | 20.00 |
| 3. | Д-р Ул. Красоўскі | 10.00 |
| 4. | А. Шурба | 10.00 |
| 5. | Ул. Дубінін | 10.00 |
| | **Разам:** | **$ 70.00** |

**Б. Заплачана сябру Рэдакцыйнае Калегіі „Беларуса" ў Нью Джэрзі сп. Браніславу Даніловічу:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. Койка | $ 20.00 |
| 2. | І. Рагалевіч | 20.00 |
| 3. | Т. Супрун | 16.00 |
| 4. | В. Цярпіцкі | 16.00 |
| 5. | К. Колбік | 15.00 |
| 6. | С. Кірылік | 10.00 |
| 7. | А. Корбут | 10.00 |
| 8. | А. Протас | 10.00 |
| 9. | М. І. | 10.00 |
| 10. | В. Харавец | 10.00 |
| 11. | М. Бахар | 10.00 |
| 12. | В. Балтрушэвіч | 10.00 |
| 13. | Я. Цыган | 10.00 |
| 14. | Д. Галубовіч | 10.00 |
| 15. | Ю. Рымко | 10.00 |
| 16. | А. Б. | 10.00 |
| 17. | А. Лог | 10.00 |
| 18. | М. Януш | 10.00 |
| 19. | Ю. Стагановіч | 10.00 |
| 20. | Л. Ясеновіч | 10.00 |
| 21. | Я. Груцько | 5.00 |
| 22. | Б. Букатка | 4.00 |
| | **Разам:** | **246.00** |

**В. Іншыя аплаты:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Ф. Бартуль за клішу й сямейную хроніку | $ 20.00 |
| 2. | В. Сітнік за кляпсыдру | 10.00 |
| | **Разам:** | **$ 30.00** |

**Усяго разам: $ 346.00**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**